*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 8
Май
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА




## Ім усё мала!

### У працяг тэмы

Праблеме мінулага суботніка былі прысвечаны матэрыялы, надрукаваныя ў № 6 “Справы”. Здавалася, што тэма вычарпана, але, як аказалася, маючы места абсурд на тым не скончыўся, а атрымаў цікавы працяг у сістэме магілёўскіх школ. Там магілёўскія настаўнікі, па меркаванню іх кіраўніцтва, павінны здзейсніць дадатковы сбор сродкаў у памеры не меней 50% ад сумы, сабранай на рэспубліканскім суботніку 24 красавіка. Тлумачэнне пабораў самае простае - невыкананне прагнознага паказчыка.

Вось такое пісьмо атрымалі школы Магілёва:



СРОЧНО!!!!

*03.05.2012* Руководителю

В связи с невыполнением прогнозного показателя по сбору средств в рамках Республиканского субботника, который прошел 21.04.2012, необходимо осуществить дополнительный сбор средств в размере не менее 50% от ранее собранной суммы. Документ об оплате представить в отдел образования до 15.00 4 мая 2012 года (кабинет №42).

**P.S. Дополнительно сообщаем, в документе об оплате должно стоять учреждение образование, а не Ф.И.О перечисляющего денежные средства.**

Начальник отдела образования И.Л. Новикова

Авсеенко 263179

Гледзячы на ўсё гэта, складваецца уражанне, што дыскрэдытацыя ўлады ідзе няспынна і па розных накірунках. І асаблівае месца ў гэтай даволі творчай працы займаюць так званыя *“прагнозныя паказчыкі”.* З аднаго боку, сёння гэта ці не адзіны падмурак існуючай палітыка-эканамічнай сістэмы, але, з другога боку, менавіта гэтыя “паказчыкі” шпаркімі тэмпамі тую сістэму і разбураюць. Можа так і трэба -- каб менавіта абсурд спрыяў станоўчай логіцы нашага руху наперад? Каб потым памяць аб тым *што* было і *як* было зрабілася своеасаблівым фільтрам на шляху розных дураты.

Прыемна, аднак, што сёння ўсё-ткі ёсць людзі ва ўладзе, якіх пачынае трывожыць існуючае становішча. Вось, напрыклад, меркаванне начальніка упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоля Сінкаўца, агучанае падчас on-line канферэнцыі, якую зладзіла газета “Культура”:

-- *Паказчык супастаўных цэн пры аказанні платных паслуг, на мой погляд, прыдатны толькі для прафесійнага мастацтва: тэатра, філармоніі, для вялікага музея, урэшце... Не прымаю таго, что бібліятэка павінна выдаваць кнігі чытачу за грошы, бо той рубель можа проста адштурхнуць чытача. Тое ж датычыцца і платных гурткоў для дзяцей. Мы такой палітыкай сяло можам проста знішчыць.*

І гэта добра, што ёсць разуменне рэалій і што на розных узроўнях пачынаюцца пошукі выхаду з зачараванага кола абсурду.

**Антон ДУБАЛОМАЎ.**

## НА ВЕКСЕЛЬ

З-за эканамічнага крызісу жыхары беларускіх вёсак вымушаныя браць у доўг у крамах прадукты харчавання. Практычна ва ўсіх сельскіх крамах выдаюць крэдыты для куплі ежы.

На практыцы гэта выглядае наступным чынам. Прадаўцы, якія ведаюць у твар кожнага жыхара вёскі, запісваюць у звычайны школьны сшытак дату, назву і кошт тавару, узятага без аплаты. Пры гэтым чэк праз касавы апарат не прабіваецца, афіцыйнае афармленне куплі адбываецца толькі ў дзень зарплаты даўжнікоў, калі ў іх з'яўляюцца наяўныя грошы. Гэта робіцца на выпадак рэвізіі, бо колькасць грошай у касе павінна заўсёды супадаць з агульнай сумай чэкаў. Памер крэдыту ў кожнай краме свой. Як правіла, на хлеб і малако да апошняга часу зарплаты хапала ўсім, але вось ужо каўбасу ці мясныя прадукты прыходзіцца браць у доўг.

Прадаўцы разводзяць рукамі: а што рабіць, калі ў людзей фізічна няма грошай, бо харчавацца ім чымсьці трэба. У сельскай мясцовасці з'явіўся нават устойлівы выраз -- *"запісаць на вексель".*

Прадаўцы гандлёвых кропак прызнаюць, што калі не даваць прадукты ў крэдыт, то крамы можна зачыняць, паколькі яны будуць стратнымі. Сельмагам даведзены планы па аб'ёмах продажаў, якія трэба выконваць - нягледзячы на нізкую пакупніцкую здольнасць грамадзян. Да таго ж у асартыменце абавязкова прысутнічаюць тавары, якія хутка псуюцца. Іх заўсёды выгадна адпусціць у доўг, чым потым выкінуць з-за таго, што яны сапсаваліся. Іншага выхаду зараз, відаць, проста няма.

*Паводле Deutsche Welle*

## Мову - за прылавак!

Пайшоў у краму за цукрам. Дай, думаю, спытаю пра гэты прадукт на беларускай мове. І што вы думаеце - прадаўцы сталі глядзець адзін на аднаго ў здзіўленні.

У раёне завода імя Кірава спытаў у работнікаў прылаўка наступнае:

- Цвікі ёсць?
- А што гэта такое? - такім быў адказ.

На прадаўцоў зла не трымаю, але неяк становіцца не па сабе, калі даводзіцца падобнае чуць. Абважыць, аблічыць навучыліся, а сваю беларускую мову абыходзяць бокам.

У нас, вядома, сваю родную мову не ўсе і ведаюць, але тым, хто абслугоўвае людзей, мабыць, варта яе падвучыць.

*(“Вечерний Могилёв”)*

## прагноз

Незалежны эканаміст Леанід Злотнікаў мяркуе, што беларусаў чакае «шокавая тэрапія» у эканоміцы. Гэта вельмі жорсткая крэдытна-грашовая палітыка, «дарагія грошы». Так было ў Польшчы калісьці. Мы гэтага пазбеглі, але зараз прыйдзецца разлічыцца за тое, што мы адышлі ад рынкавых рэформаў і вярнуліся да сацыялізму. І мы нікуды не падзенемся і пройдзем гэты шлях знoўку - як праходзілі ў той жа Польшчы.



**Міхась БАРАЗНА.**

## Дапамога



### *Кампанія "Гавары праўду" дапамагла магіляўчанцы вярнуць працу.*

Згодна з рашэннем суда Наталля Салаўёва павінна атрымаць 500 тысяч рублёў кампенсацыі за маральную шкоду і каля 2 млн рублёў за "вымушаны" прагул.

Нагодай для звальнення жанчыны стаў яе удзел у калектыўным звароце рабочых у Дэпартамент дзяржаўнай інспекцыі працы. Рабочыя скардзіліся на тое, што наймальнік не выконвае працоўнае заканадаўства. Пасля звароту Натallю Салаўёву звольнілі, а Вольгу Якушэнка перавялі працаваць прыбіральшчыцай.

У пошуках справядлівасці, жанчыны звярнуліся ў грамадскую прыёмную кампаніі "Гавары праўду" у Магілёве. Юрыст кампаніі Сяргей Фамін здолеў адстаяць інтарэсы жанчыны ў судзе.

Дарэчы, па словах Фаміна, у бліжэйшы час чакаецца яшчэ адзін суд. Вольга Якушенко, незаконна пераведзеная на нізкакваліфікаваную працу, будзе дамагацца вяртання на сваё ранейшае працоўнае месца.

**М.Б.**

## З Юбілеем!

У маі гэтага года нацыянальная валюта Беларусі -- беларускі рубель - адзначае 20-годдзе свайго існавання. Па падліках БелаПАН, за два дзесяцігоддзя “зайчык” абясцэніўся на **237 595 925%**.




## Запазычанасць



Запазычанасць насельніцтва Беларусі за жыллёва-камунальныя паслугі сёння складае каля 33 мільярдаў рублёў, адзначаюць у Мінжылкамунгасе. Па цяперашняму курсу гэта складае 4 мільёны 54 тысячы долараў. Сёння ў Беларусі за нявыплату паслуг могуць высяляць з кватэр толькі наймальнікаў. Але новы Жыллёвы кодэкс дазволіць рабіць гэта і з уласнікамі жылля.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

*Ня бойцеся сяброў - яны могуць толькі здрадзіць вам: ня бойцеся ворагаў - яны могуць толькі забіць вас; бойцеся раўнадушных, бо толькі з іх маўклівай згоды здзяйсняюцца здрады і забойствы.*

**Бруна ЯСЕНСКІ.**

# Нечаканая Магілёўшчына

Акадэмік Д.С.Ліхачоў пісаў: *"Памяць – аснова сумлення і маралі, памяць – аснова культуры. Захоўваць памяць, берагчы памяць – наш маральны абавязак перад самім сабой і перад нашчадкамі. Памяць – наша багацце".*

Гэтыя словы з'яўляюцца дэвізам краязнаўчага атрада "Нечакая Магілеўшчына", створанага на базе сярэдняй школы № 31 г. Магілева. Мэтай работы атрада з'яўлеяцца выхаванне патрыятызму і грамадзянскасці сярод моладзі.

Арганізатар яго – настаўніца геаграфіі К.М.Мазанкова – лічыць, што своечасовае выхаванне ў дзяцей пачуцця гонару за сваіх продкаў і павагі да тых, хто выканаў свій абавязак перад Радзімай, непрыняцце вайны, разуменне каштоўнасцей чалавечага жыцця – залог духоўнай бяспекі Айчыны.

Асноўнымі формамі дзейнасці фарміравання з'яўляюцца экскурсіі, краязнаўчыя назіранні. Вучні здзейснілі шматлікія выезды ў межах Магілёўскага раёна, наведалі помнікі героям Вялікай Айчыннай вайны ў населеных пунктах Княжыцы, Дашкаўка, Любуж. Чаромушкі, Гаі.

У Княжыцах – невялікай вёсцы, размешчанай паблізу Магілёва, захаваўся каменны храм сярэдзіны 18 стагоддзя. Агромністы будынак ўладарыць над драўлянымі пабудовамі і добра бачны здалёк. Помнік





Храм у Княжыцах - якім ён быў напачатку XX ст. і які выгляд мае сёння.

мае свае адметнасці. Знутры храм, дзякуючы адсутнасці слупоў і значнай вышыні (15 м), адрозніваецца прасторам, узнёслацю інтэр'ера.

У весцы Гаі ёсць брацкая магіла байцоў батальёна міліцыі. У ліпені 1941 г. каля вескі адбываліся страшэнныя баі. Сем дзён батальён на чале з капітанам К.Г.Уладзіміравым мужна трымаў абарону. З 250 байцоў у канцы бою засталося 13. Загінуў і сам капітан. У 1980 годзе тут быў узведзены помнік.



Помнік у в.Гаі

У весцы Дашкаўка захаваўся будынак сядзібы Жукоўскіх, пабудаваны ў пачатку XX



Сядзіба Жукоўскіх у в.Дашкаўка. Малюнак Н.Орды.



Сучасны выгляд

стагоддзя. Згодна з легендай, ён прыйшоўся даспадобы імператрыцы Аляксандры Фёдараўне, якая гасціла ў Магілёве ў Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Царская сям'я вельмі хацела набыць сядзібу, але мясцовае дваранства заўпарцілася, і здзелка не адбылася.

Яўрэйскія могілкі Дашкаўкі знаходзяцца на паўночным усходзе вёскі, на мяжы яе і днярпоўскіх поплаваў, побач з бальніцай. Восенню 1941 г. тут было расстраляна ўсё яўрэйскае насельніцтва вёскі, прыкладна 40 чалавек.

Далей на ўсход ад завода імя С.Кірава знаходзіцца мемарыяльны



Мемарыял "Зямлянка"

комплекс "Зямлянка", дзе ў 1941 г. быў распрацаваны план абароны Дняпроўскай мяжы.

Паблізу Магілёва ёсць маленькая вёсачка Салтанаўка, якая стала са-



Капліца на месцы бітвы ля Салтанаўкі

праўднай арэнай баявых дзеянняў вайны 1812 года. Тут адбыўся бой рускіх войск пад камандаваннем генерала М.Раеўскага з французскімі войскамі маршала Л.Даву.

У членаў краязнаўчага атрада на ўсё жыццё застануцца ўспаміны пасля наведвання гэтых мясцін. Навучэнцы лічаць, што патрыятызм – гэта абвостранае пачуццё асабістай адказнасці за лёс суайчыннікаў, захаванне нацыянальнай культуры і зямлю, атрыманую ў спадчыну ад продкаў.

**Юлія БРУК.**

*(Паводле "Вечерний Могилёв»)*

# Забаронены Сяргей Антонаў



Сустрэча магілёўцаў з вядомым пісьменнікам-фантастам Сяргеем Антонавым - адзіным беларускім аўтарам, які публікуецца ў расійскай серыі «Сусветнае метро 2033», - не адбудзецца. Папулярны пісьменнік і арганізатар сустрэчы цэнтральная гарадская бібліятэка ім. Карла Маркса тлумачаць гэта па-рознаму. Як распавяла прадстаўнік адміністрацыі бібліятэкі, прэзентацыя кніг беларускага фантаста адкладзеная, паколькі на 16 мая было запланавана іншае мерапрыемства - сустрэча з ветэранамі, якую адмяніць нельга.

Сам Сяргей Антонаў прытрымліваецца іншага меркавання. Ён лічыць, што сапраўдный прычынай адмены прэзентацыі яго кніг у Магілёве сталі яго палітычныя перакананні.

*-- Мабыць, даведаліся, што я ў партыі БНФ і што запрашу на сустрэчу маіх сяброў з партыі БНФ,* - кажа пісьменнік . *-- Мае кнігі - фантастыка, і яны не маюць нічога агульнага з палітыкай. І тут высвятляецца, што я забаронены аўтар у Беларусі. У Маскве ў мяне праходзіць у год не менш за тры прэзентацыі. Тыраж маіх кніг - 250 тысяч асобнікаў. Кнігі пакуль прадаюцца ў Беларусі. Толькі адноўчы ў Магілёве мне ўдолося пагаварыць са студэнтамі педагагічнага універсітэта, але, мабыць, пасля забароны ў бібліятэцы такіх сустрэч наогул не будзе.*




Адзначым, што ініцыятарам сустрэчы чытачоў з пісьменнікам выступала сама бібліятэка.

**Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**

# Пад адхон!

26 мая супрацоўнікамі інспекцыі па справах непаўналетніх былі ўстаноўлены асобы непаўналетніх, якія накладвалі шчэбень на рэйкі на 135-м кіламетры перагона Магілёў-1 - Магілёў-3. У гэты раз міліцыя мела справу не з падлеткамі і нават не з вучнямі малодшых класаў, а з двума выхаванкамі аднаго з дзіцячых садкоў Магілёва ва ўзросце 5 і 6 гадоў.



У дачыненні да бацькоў дэтсадаўцаў складзены адміністрацыйныя пратаколы на падставе ч.1 арт. 9/4 КаАП (невыкананне абавязкаў па выхаванню дзяцей), якія прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе папярэджання або накладання штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь.

Варта адзначыць, што, на думку спецыялістаў, наезд цягніка на такое перашкода цалкам можа пацягнуць яго сход пад адхон.

**Алесь СУВОРАЎ.**

## ЯК УЗНІК ФАШЫЗМ У ГЕРМАНІІ

*«Калі нацысты прыйшлі за камуністамі, я маўчаў, я ж не быў камуністам. Потым яны прыйшлі за сацыялістамі, я маўчаў, я ж не быў сацыял-дэмакратам. Потым яны прыйшлі за прафсаюзнымі дзеячамі, я маўчаў, я ж не член прафсаюза. Потым яны прыйшлі за габрэямі, я маўчаў, я ж не быў габрэем. Калі яны прыйшлі за мной, больш не было нікога, хто б мог пратэставаць».*

**Марцін НІМЕЛЛЕР - пастар пратэстанцкай евангелічнай царквы.**

# Пра першую інфармацыйную рэвалюцыю



Вынаходства Гутенбергам кнігадрукавання стала першай інфармацыйнай рэвалюцыяй, якая, у сваю чаргу, выклікала да жыцця пратэстантызм і рэлігійныя войны. (Пасля трыццацігадовай вайны насельніцтва Германіі скарацілася ў чатыры разы).

З'яўленне наборнага шрыфта зрабіла Біблію таннай і даступнай простым людзям. Чытаючы яе самастойна, яны сталі думаць самі пра паходжанне свету, што і спарадзіла рэлігійны крызіс. У гэтым і была сутнасць першай рэвалюцыі - знік пасрэднік у выглядзе царквы. Чалавек перастаў быць



аб'ектам рэлігійнага жыцця, ён становіцца яе актыўным удзельнікам. Самастойна чытаючы Біблію, самастойна асэнсоўваючы яе і уцягваючыся ў "асабістыя" адносіны з Богам, чалавек сам усведамляе карціну свету, у якім жыве. Рэвалюцыйнасць - у тым, што кожны асобны чалавек перастае быць аб'ектам (рэччу, авечкай), які кіруецца ўказаннямі, а становіцца суб'ектам - сам актыўна думае, вырашае і дзейнічае. Да гэтага ён - пасіўная *"тварь дрожащая"*, пасля - актыўны, самастойны ўдзельнік.

**Дзмітрый ШЧЫГЕЛЬСКІ.**


"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 31.05.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.





«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/